Зберагчы і навялічыць

# Дзедзіч

ЧЭРВЕНЬ 2015 • №3 (90)
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

КАМПАНІЯ "БЕЗ ВІЗЫ" **ШУКАЕ ІДЭЙНЫХ**
**стр.2**




**АКТЫЎНІЧАЙ** НА ПАЗІТЫВЕ РАЗАМ **З "ААЗІСАМ"!**
• стр.**8**

# Кампанія “БЕЗ ВІЗЫ” шукае ідэйных

**Сярод моладзі з’явілася новая модная тэндэнцыя – прысвячаць сябе валанцёрству. Гэта не толькі дапамога хворым дзеткам ці людзям сталага ўзросту. Весела і цікава можна правесці час, робячы любімую справу на карысць грамадства.**

Агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч» дае магчымасць актыўным берасцейцам рэалізаваць сябе ў новым праекце “Будзь валанцёрам”, што стартаваў у красавіку гэтага года. Нельга пакінуць без увагі аднаго з ўдзельнікаў праекта, грамадскую кампанію “Без візы”, якая таксама мае патрэбу ў ініцыятыўных памочніках.

Пра іх дзейнасць, мэты і валанцёрства пагутарылі з удзельніцай кампаніі – **Аленай Каховіч**.

**– Раскажы, як была створана арганізацыя, і чым вы займаецеся?**

– Наша кампанія называецца “У Беларусь і Еўропу без візы”, што поўнасцю супадае з існуючым дэвізам. Яна была створана арганізацыяй “BelarusWatch“ ў 2010 годзе. Тады яшчэ ніхто не закранаў візавае пытанне. Проста думалі, што гэта такая “сцяна ”, з якой нічога нельга зрабіць. Насамрэч, гэта вялікая праблема: людзі трацяць шмат нерваў і грошай, каб зрабіць нарэшце візу і кудысьці паехаць. Мы вырашылі заняцца гэтай балючай тэмай, скасаваць візавы рэжым паміж Беларуссю і Еўразвязам. Таксама мы займаемся адукацыяй, адказваем на пытанні, як атрымаць візу самастойна і не плаціць вялікія грошы пасрэднікам. Наша бліжэйшая мэта – спрашчэнне візавага рэжыму (фасілітацыя), якога ўжо даўно дамагліся суседнія краіны.

**– Якія найбольш заўважныя праекты кампаніі ты можаш вылучыць?**

– Мы першыя, хто паднялі пытанне шматгадовай візы. Раней нават ніхто не ведаў, што такое можа быць. Ствараем адукацыйныя праекты, каб людзі ведалі, што насамрэч усё рэальна. Таксама актыўна падымаем тэму танных вандровак. Напрыклад, ужо некалькі разоў праводзілі фестываль “Самаход”. У гэтым годзе ён прайшоў і ў Берасці. Робім кватэрнікі, канцэрты, розныя канферэнцыі і круглыя сталы.

**– Ці існуюць якія-небудзь цяжкасці?**

– Так, цяжкасці існуюць. Па-першае праблема ў саміх людзях, якія думаюць, што нерэальна самастойна атрымаць візу. Калі мы ездзім па іншых гарадах, то бачым, што ўвогуле мала ў каго гэтыя візы ёсць. Напрыклад, нядаўна ў Гародні была інфармацыйная сустрэча, дзе з 30 чалавек ні ў аднаго не было візы. Хаця гэта заходні горад, недалёка ад Польшчы. Гэта нас вельмі ўразіла. Па-другое – стаўленне беларускіх уладаў. Мы дасылаем вельмі шмат зваротаў да іх, проста каб з намі пайшлі на дыялог і адказалі на пэўныя пытанні, як гэта робяць еўрапейскія чыноўнікі ў дачыненні да нас.

**– Якія мерапрыемствы запланаваны на бліжэйшы час?**

–Зараз мы гатуемся да Кангрэсу даследчыкаў Беларусі, які адбудзецца ў кастрычніку ў Коўна (Літва). Гэта наш рухавік у больш навуковым накірунку. Яшчэ мы плануем арганізаваць тэматычны кватэрнік у Менску з танцамі ліндзі, круглы стол з Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў. Хутка адбудзецца фестываль “Басовішча”, да якога мы таксама плануем далучыцца.

**– Колькі чалавек аб’ядноўвае кампанія “Без візы”?**




– Асноўная частка нашай каманды – гэта валанцёры. Іх больш за 250 чалавек. Але актыў складаецца прыкладна з 20 чалавек, палова з якіх – арганізатары.

**– Чым будуць займацца валанцёры?**

– Валанцёры нам патрэбны, каб падрыхтаваць мерапрыемствы, дапамагчы прасоўванню ў сацыяльных сетках. Было б добра, калі б валанцёры самі былі ініцыятарамі стварэння чагосьці новага. Але не пужайцеся, бо мы дапамагаем, праводзім адукацыйныя трэнінгі, развіваем валанцёрскі рух у нашай кампаніі.Даем свабоду валанцёрам, намагаемся каб яны рабілі тое, што сапраўды цікава. Вось у нас быў такі прыклад. У чалавека ўзнікла ідэя зрабіць "бязвізавыя" шпакоўні. Мы дапамаглі, у Маскве нават замаўлялі гэтыя шпакоўні, пасля размалявалі, і зараз некаторыя вісяць у Гародні, астатнія ў Батанічным садзе ў Менску. Было б толькі жаданне!

**– Якіх людзей вы чакаеце ў каманду "Без візы"?**

– Пажадана, каб чалавек быў камунікабельны, таму што праца звязана з людзьмі. Ну і, канешне, адэкватны. Само сабой патрабуецца падтрымліванне нашай ідэі – адмены віз. А яшчэ гэта павінен быць проста вясёлы чалавек.

**– Колькі часу будзе адымаць валанцёрства?**

– Канешне, усё залежыць ад чалавека. Ёсць час – зладзіў мерапрыемства з нашай дапамогай і можна на лаўрах пачываць! Але кожны месяц мы ладзім у Менску клуб валанцёраў, аплачваем праезд, робім упіску. Раз на паўгады мы робім бонусныя паездкі ў Вільню для самых лепшых валанцёраў. Таксама хутка у нас будзе летнік, таму хто паспее да нас далучыцца, зможа ў ім паўдзельнічаць.

**– Як ты лічыш, чаму валанцёрскі рух набірае папулярнасць? Што можа даць валанцёрства ў "Без візы"?**

–У людзей ёсць больш-менш вольны час, у які не ўсім ужо хочацца сядзець у сацыяльных сетках. Гэта ўжо не крута. Нехта хоча той жа фан атрымаць. Мы, напрыклад, гэты фан і прапаноўваем. Пры гэтым можна займацца чым заўгодна, як культурнымі мерапрыемствамі, так і адукацыйнымі даследаваннямі. Да таго ж, кампанія агульнабеларуская, што дазваляе ладзіць праекты не толькі ў Берасці. А гэта шмат новых знаёмстваў.

**– Якой ты ўяўляеш арганізацыю праз некалькі год?**

– Калі глядзець у больш далёкі час, то будзем мадэляваць сітуацыю, што быццам скасавалі візавы рэжым і нам няма чаго рабіць. Але насамрэч, вельмі доўгі працэс ад фасілітацыі да самой адмены візавага рэжыма. Гэта можа заняць каля дзесяці год. Сістэма змяняецца, кожны месяц выходзяць новыя візавыя навіны. На мой погляд, адукацыя – менавіта тое, чым мы маглі б далей займацца. Каб людзі сапраўды сталі мабільнымі!

**Больш актуальнай і карыснай інфармацыі можна атрымаць на афіцыйным сайце: novisa.by**.

Таксама далучайцеся ў сацыяльных сетках:
УКантакце: **vk.com/bez_vizy**
Twitter: **twitter.com/bez_vizy**
Зрабі свой уклад для вандровак без перашкодаў!

**Даша БАСАЛАЙ**

# Родная мова у дзіцячым садку

**Да ўвагі бацькоў, хто восенню павядзе дзяцей у садок! У Маскоўскім раёне Берасця можа быць адкрыта беларускамоўная група для дзяцей 2-3 гадоў, але пры ўмове, што набярэцца неабходная колькасць дзетак для такой групы.**

Ніжэй змяшчаем зварот мамы, якая заклікае бацькоў падтрымаць яе ініцыятыву. У звароце вы знойдзеце таксама кантакты для сувязі з Марынай.

*Кожны час выносіць свае патрабаванні да чалавека як да асобы і як да грамадзяніна сваёй краіны. Раней былі адны каштоўнасці і мэты, сення яны іншыя, але ніхто не ведае, якім будзе заўтра. Тым не меней, найбольш годнымі, гарманічнымі, цэласнымі і творчымі людзьмі заўсёды былі і ёсць тыя, хто ведае свае карані, хто адчувае сваю родную зямлю нагамі і любіць яе ўсім сэрцам. Тады ў чалавека есць жаданне жыць і працаваць, тварыць не толькі дзеля самога сябе, а для людзей навокал, для Радзімы.*

*Наша роля дарослых як бацькоў не толькі зберагчы ўсё тое багацце, якое створана нашымі продкамі і перадаць нашым дзецям, але і навучыць іх карыстацца ім. Стварыць такія ўмовы развіцця і станаўлення, якія дазволілі б не адчуваць сябе перакаці-полем, жывучым адным днём, а чэрпаць моц са сваёй зямлі і мець жаданне пакінуць на ёй свой след. Канешне, гэта не адзіная умова, і не ўсе стануць паэтамі, навукоўцамі ці даследчыкамі, аднак годнымі людзьмі – абавязкова!*

*Найгалоўнейшым, на маю думку, у станаўленні нацыянальнай самасвядомасці з'яўляецца валоданне роднай мовай і любоў да яе. Бо як можна любіць і разумець традыцыі, калі яны на мове, якой не ведаеш, як можна з гордасцю казаць, што ты беларус, калі кожны можа у твар кінуць: "хто такія беларусы? вы нават мовы сваёй не ведаеце, ды і няма яе, гэта усе штучнае…", як можна любіць Беларусь, калі ў школе плачаш над беларускімі падручнікамі, бо нічога не разумееш і клянеш і мову гэтую і краіну разам з ёй?*

*Хачу ўзняць пытанне выхавання нашых дзетак у дзіцячых садках (і школах) на беларускай мове. У Берасці няма аніводнага беларускамоўнага садка і нават групы. У аддзеле адукацыі абяцалі: калі набярэцца неабходная колькасць бацькоў, пайсці насустрач і стварыць на базе рускамоўнага садка беларускамоўную групу. У гэтым годзе мой малодшы сын пойдзе ў першую малодшую групу (2-3 гады), у наступным навучальным годзе надыйдзе час старэйшаму сыну ісці ў школу, таму шукаю бацькоў-аднадумцаў, якія гатовы выхоўваць і навучаць сваіх дзетак на беларускай мове.*

*Давайце аб'яднаемся, каб наша жаданне ажыццявілася!*

***Усіх ахвотных прашу тэлефанаваць:***
***(8-029) 790-35-25 (Марына).***


belarus1984by.livejournal.com



# І для дарослых, і для моладзі – YMCA

**У горадзе іх ведаюць як «Гарадское аддзяленне грамадскай арганізацыі «Хрысціянская садружнасць дарослых і маладых», або БрГО ГА «ХСВМ». Яны ж, валанцёры, часта называюць сябе «УМСА Brest», паколькі адданыя міжнароднай справе YMCA.**



Гэта непалітычнае, недзяржаўнае, нерэлігійнае грамадскае аб'яднанне. Каб больш дакладна даведацца пра працу аб'яднання, мы вырашылі задаць некалькі пытанняў **Вользе Крусь** – аднаму з членаў Савета YMCA.

**- Раскажы у некалькіх сказах пра вашу працу.**

Наша арганізацыя займаецца шматбаковым развіццём асобы ўдзельнікаў праграм і сябраў арганізацыі праз уключэнне іх у дзейнасць. Напрыклад, мы вывучаем родную і замежныя мовы, ладзім спартыўныя мерапраемствы, таксама ёсць праграма па прынцыпе "роўны навучае роўнага" па тэме "Прафілактыка наркаўжывання". Таксама у нас ёсць некалькі доўгатэрміновых праграм, напрыклад – "Школа маладога лідэра", "Бацькі.бай", "Скаўтынг" і інш.

**- Як доўга працуеце і што змянілася за гэты час?**

Працуем мы з 2004 года. За гэты час змянілася шмат тэм, па якіх мы робім трэнігі, семінары, дыскусіі. Адны людзі прыходзілі, дапамагалі нечым і сыходзілі. Але былі і такія, хто застаўся. За гэты час змяніўся і прафесійны ўзровень трэнераў, і колькасць партнёраў, якія нам дапамагаюць.

**- Апішы самы цікавы момант з тваёй працы.**

Мы зладзілі цудоўны праект абмену з Шатландыяй (мы самі стварылі праект і рэалізавалі яго). Наведалі гэтую краіну, а цяпер чакаем нашых сяброў у Беларусі. Праз год павінны сустрэцца.

**- Навошта арганізацыі валанцёры?**

Валанцёры нам патрэбны для рэалізацыі праграм "Скаўтынг" і "Тэнсінг" (творчасць на сцэне). Таксама, для таго, каб весці старонку ў сацыяльнай сетцы, для стварэння сайту, дапамогі ў нашай школе на беразе Нёмана.

**- Паспрабуй апісаць ідэальнага валанцёра…**

ХСДМ карыстаецца канцэпцыяй абсалютнай інклюзіі, і таму нам патрэбныя ўсе, і няма ніякіх абмежаванняў! Далучайцеся да нас!

Для ўсіх, хто зацікавіўся гэтай ініцыятывай, просім далучацца да суполкі ў ВК: vk.com/ymcabrest, або vk.com/backiby

**Інтэрв'ю правёў Дзяніс Трацюк**



# Мы помогаем стать лучше!

## итоги Social Weekend в Бресте

**30 мая 2015г. в Бресте прошел финал конкурса социальных проектов Social Weekend. 9 инициатив, представленных в финале, приятно удивили жюри своей подготовкой.**

“Вы должны понимать: мы никогда не критикуем только для того, чтобы просто критиковать – мы стараемся помочь проекту стать лучше. Не всегда инициативе нужны деньги. Иногда людям нужно подсказать, как посмотреть на проблему иначе, где найти другой подход, или по-человечески поддержать волонтеров. Не бойтесь критики!”, – обратился к участникам конкурса Александр Скрабовский, соорганизатор конкурса.

Проект интернет-радио “Калыска” получил гран-при финала, а также финансовую поддержку для записи сказок на студии. Анатолий Тихон, автор проекта, рассказывает: “Я готовился основательно, и очень рад, что проект получил поддержку. Мероприятие потрясающее, и такие мероприятия обязательно нужны в регионе. Мне даже кажется, что можно расширять конкурсы: приглашать больше инициатив, рассказывать другим людям о проектах и привлекать к сотрудничеству”.

Михаил Чупринский, член жюри, выразил желание оказать помощь проекту “Подъёмник для подъёма инвалидов по лестничному маршу” в технической экспертизе и проведении сертификации, а также в создании социального предприятия для распространения инициативы в республиканском масштабе, с которым можно будет участвовать в республиканском конкурсе Social Weekend.





Фотовыставка “Театр в объективе”, благодаря презентации ее автора, Дениса Троцюка, получила приз зрительских симпатий. Кроме этого, “Офис европейской экспертизы и коммуникаций” окажет помощь проекту в печати фотографий для проекта.

Инициативе “Фризюры на дому”, направленной на помощь пожилым людям, будет оказана материальная поддержка в покупке набора парикмахерских инструментов.

Проект постановки спектакля “Цмок вяликадрапежный” интеграционного театра получит финансирование на покупку необходимой техники: радио-микрофонов, усилителя и микшера – для проведения спектаклей в больших помещениях и на открытых площадках.

Инициатива “Спортивный центр для детей-сирот и детей из неблагополучных семей” получила консультативную и поддержку от представителя жюри Олега Голоса, молодежное объединение “Наследие”, для поиска спонсоров мероприятия и организации турниров с другими похожими инициативами.

Проект, направленный на защиту бездомных животных, финансовую помощь строительство двух вольеров для животных. Ирина Омельянчук комментирует: “Я очень рада, что состоялся региональный тур. Для проекта очень важно почувствовать оценку со стороны других людей, со стороны жюри – и улучшить свою работу”.

Информационная поддержка была оказана проекту “Азбука равных возможностей”. Ирина Шатило, корреспондент “Брестской газеты”, предложила помощь проекту в сборе необходимых конструкторов через печатное издание.

“Такие мероприятия, безусловно, в регионе нужны: иногда сами участники не знают друг о друге, и так у них появляется возможность познакомиться, обменяться контактами, помочь чем-то и рассказать об этих идеях”, – комментирует Виктория Виноградова, автор проекта “Азбука равных возможностей”.

Виктория также приглашает пожертвовать проекту детские конструкторы для развития мелкой моторики рук у детей с особенностями развития. Сайт школы доступен по ссылке: sch3.pinsk.edu.by; телефон: (0165) 35-67-17; email: sch3@pinsk.edu.by

Проекту “Трансплантация – это жизнь!” была оказана консультативная помощь в дальнейшем развитии проекта и информационная поддержка в СМИ. Жюри также пригласили социально-просветительское учреждение “Международный центр Донорство Диализ Трансплантация”, организовавшее проект, к участию в республиканском конкурсе Social Weekend 6, который пройдет уже вскоре.

Ольга Плечко отмечает: “Наше участие было очень важным: для проекта иногда необходимо услышать чужое мнение о проекте, получить конкретные рекомендации по его улучшению”.

“В региональных центрах часто не реализуются социальные проекты: мало кто умеет написать проект и довести его до ума. Не всегда хватает знаний, опыта и умений, – рассказывает Вячеслав Лавренюк, председатель “Международного центра Донорство Диализ Трансплантация”. – Подобные конкурсы не только сплачивают людей, но и показывают, куда идти дальше, что делать – появляется алгоритм действий, после которого можно начинать работать”.

Результаты финала конкурса стали приятной неожиданностью и для самих членов жюри. Александра Курилович, директор Фонда регионального развития, член жюри, делится своими впечатлениями: “У меня только положительные эмоции от участия. Очень понравился формат: с одной стороны, мы должны были выбрать победителя, а с другой – каждому проекту была оказана помощь”.

Благотворительная платформа “МаеСэнс” и просветительское учреждение “Офис европейской экспертизы и коммуникаций” благодарят проекты и спонсоров за участие и надеются, что местный бизнес активнее подключится к поддержке социально значимых проектов. Напоминаем, что уже осенью состоится республиканский конкурс социальных проектов Social Weekend 6. Следить за информацией можно на официальном сайте проекта socialweekend.by.

**tut.by**



# Актыўнічай на пазітыве з “Аазісам”!

**Калі яшчэ некалькі год назад ініцыятыўным берасцейцам было складана рэалізаваць свае ідэі, то сёння перад такімі энтузіястамі адчыняюцца ўсе дзверы.**

Так, гэтай вясной стартаваў маштабны праект “Будзь валанцёрам”. Ён быў арганізаваны агенцтвам рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч» і ўключыў у сябе шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на папулярызацыю валанцёрства ў Берасці. Больш за 20 няўрадавых арганізацый прынялі ўдзел у праекце.

Адной з такіх стала моладзевая ініцыятыва “ААЗІС”. Яна імкнецца актывізаваць маладых берасцейцаў на вырашэнне ўласных праблем, а таксама праблем экалогіі і беларускай культуры. Акрамя таго, “ААЗІС” вядомы як арганізатар першай медыя-школы ў горадзе.

**Падрабязней пра дзейнасць арганізацыі распавядае яе кіраўнік – Ірына Мароз.**

Арганізацыя-ініцыятыва з’явілася ў 2004 годзе. Па спецыфіцы сваёй яна з’яўляецца студэнцкай. Таму ўвесь час ідзе працэс перадачы розных паўнамоцтваў тым, хто яшчэ студэнт, хто ведае моладзевыя праблемы знутры. Можна сказаць, што такая ў нас ідэалогія.

**– Як нарадзілася ідэя стварэння “ААЗІСА”?**

– Былі ініцыятыўныя людзі, але падзецца ім не было куды. Хацелася рабіць штосьці не палітызаванае, невялічкія справы, якія канкрэтна могуць дапамагаць студэнтам. Першапачаткова, напрыклад, былі юрыдычныя кансультацыі для студэнтаў у неспакойныя 2005-2007-я гг. Вось на такіх асновах, больш для дапамогі ў канкрэтных справах, чым нейкай вялікай праектнай дзейнасці, была створана наша ініцыятыва. Толькі ў гэтым годзе мы ўжо афіцыйна зарэгістраваліся як культурна-асветніцкая ўстанова.

**– Якія праекты ўжо ператвораны ў жыццё і што яшчэ чакае свайго часу?**

– Былі агульныя праекты з “Дзедзічам” і “Наша Мова”. З таго, што цягнецца даўно – найперш “Мова дзеткам”. Гэта адукацыйныя семінары і імпрэзы для дзяцей у садках і малодшых школьнікаў. Апошняе з таго што было – медыяшкола. У рамках кампаніі правялі шэсць акцый-ініцыятыў. Мы думаем, што яны дасягнулі тых мэтаў, якія перад імі ставіліся. Так, па-трошачку, будзем прыходзіць да нечага вялікага і карыснага.

Зараз мы перайшлі непасрэдна ад студэнцтва да гарадскога жыцця моладзі. Напрыклад, вырашылі, што ў наступным годзе арганізацыя зоймецца справамі размеркавання маладых спецыялістаў.

**– Вы плануеце пашыраць сваю дзейнасць, напрыклад у рэгіёнах?**



– Мы аб’ядноўваем моладзь Берасця, але навучэнцы ВНУ – гэта не заўсёды берасцейцы па паходжанні. Таму тыя, хто прыходзіць на нашы мерапрыемствы як валанцёры, могуць расказваць пра нас і ў сваіх рэгіёнах. Але мы не ставім за сабой нейкія вялізныя мэты. Хутчэй гэта невялічкія, але карысныя справы. Пакуль мы абмяжоўваемся толькі Берасцем.

**– Каго вы чакаеце ў якасці сваіх валанцёраў?**

– Нам патрэбны людзі, якія могуць працаваць у інтэрнэце (напрыклад, весці суполку), дапамагаць у офісных працах, працаваць з маленькімі дзеткамі ў праекце “Мова дзеткам”.

**– Як ідзе справа з фінансаваннем?**

– Нас падтрымліваюць берасцейскія прадпрымальнікі. Гэта не праектная дзейнасць, а ахвяраванні грамадзян. Гэтых грошай хапае на арэнду і прыемныя прызы для ўдзельнікаў нашых акцый.

**– Што можа даць сяброўства з “ААЗІС”?**

– Мы зацікавім досведам, бо гэта адно з такіх укладанняў, якія будуць карысны ў будучыні амаль у кожнай справе. Таксама гэта проста сумеснае, цікавае і пазнавальнае баўленне часу. Калі хтосьці мае энергію, актыўнасць, але не ведае, дзе і як яе прымяніць, то гэта і будзе наш агульны ўнёсак у валанцёрскую скарбонку для пазітыўнай актыўнасці!

**– Якой вы бачыце сваю арганізацыю ў будучым?**

– Думаю што яна зменіцца моцна. “ААЗІС” усе роўна павінен будзе ахопліваць цікаўнасці гораду, яе моладзі як асноўнага актывіста. Хацелася каб было больш цэнтральнага актыву, не тры чалавека, як зараз. Было б выдатна мець свой сапраўдны офіс. Насамрэч, калі яна будзе існаваць у такіх умовах як зараз, то нават гэта будзе вельмі файна!

Калі ты актыўны і пазітыўны, не звыклы заставацца ў цені грамадскага жыцця, гатовы дзяліцца сваімі ідэямі ці валодаеш пэўнымі праблемамі, тады далучайся да “ААЗІС”!

**Даша БАСАЛАЙ**



# Виртуальность для реальности

**В рамках Первой брестской медиа-школы «Виртуальность для реальности» продолжается проведение общественных инициатив. Организатором школы является культурно-просветительское учреждение «ААЗІС».**




Напомним, что в рамках школы двадцать молодых брестчан посетили серию семинаров и лекций, посвященных вопросам фотоискусства, видеографии и флеш-анимации. Также участники познакомились с основами гражданской активности и тем приемам, которые помогают донести свои нужные и полезные идеи городу и его жителям. По итогам школы, «выпускники» самостоятельно продумали и разработали план реализации 6 общественных инициатив. Одной из них стала кампания «Бумажные пакеты». В ходе неё выпускники медиа-школы провели опрос жителей города, сбор подписей под обращением к руководству брестских гипермаркетов с просьбой использовать бумажные упаковки и пакеты. Также молодые люди в одном из гипермаркетов города провели флеш-моб, целью которого было обратить внимание сотрудников магазина на желание покупателей использовать бумажные пакеты.

«По итогам кампании собранные подписи будут переданы руководству брестских гипермаркетов для рассмотрения. Надеемся, что Брест станет одним из первых «эко-френдли» городов Беларуси» – прокомментировала мероприятия Ирина Мороз, координатор медиа-школы для активной молодежи «Реальность в виртуальности».

Еще одной общественной инициативой стал флеш-моб «Стоп-батон!». Выпускники медиа-школы обратили внимание горожан на вред кормления птиц хлебом. Акция проходила на набережной р.Мухавец. Ребята раздавали прохожим информационные буклеты, проводили беседы.

«Надеемся, что в этом году, благодаря нашим выпускникам, большее количество птиц улетит на зимовку и вернётся здоровыми к нам в Брест. Люди, когда кормят птиц хлебом и другими непригодными для них продуктами, просто не знают, что наносят вред. Именно на это направлена наша акция – проинформировать жителей Бреста о том, что есть другие пути приносить пользу птицам» – прокомментировала мероприятие Ирина Мороз, координатор медиа-школы для активной молодежи «Реальность в виртуальности».

Все вопросы можно задать вКонтакте: vk.com/aazis_berasce или по телефону 029-228-11-25 (Ирина), мейлу: oazis.brest@gmail.com

**dzedzich.org**





# Навошта людзі валанцёраць?

## Размова з польскімі дзяўчынамі, якія прыехалі ў Гродна, каб тут бясплатна працаваць

**Другі месяц дзяўчыны з Польшчы Ксенія і Вольга вучаць польскай мове слухачоў “Універсітэта Залатога Веку”, вядуць клубы “Гарадзенскія ўспаміны” і кіно. За сваю працу яны не маюць аніякага ўзнагароджвання, акрамя досведу і практыкі замежных для іх беларускай і рускай мовах.**

Дзяўчыны – ўдзельніцы праграмы Еўрапейскай Валанцёрскай Службы (European Voluntary Service, EVS). Ксеніі 25 год, паводле ўніверсітэцкай адукацыі яна палітолаг. Раней дзяўчына ўжо ўдзельнічала ў месячным валантарыяце ў Іспаніі: дапамагала самотным маці і эмігрантам. Вольга на год старэйшая, скончыла славянскую філалогію і ўсходазнаўства. Гэта таксама далёка не першы яе валанцёрскі досвед.

**- Як вашае валанцёрства стасуецца з вашай адукацыяй і прафесійнымі зацікаўленасцямі?**

**Ксенія:** Праграма IVS дазваляе вывучаць замежныя мовы, а гэта важна для палітолага. Я не ўпэўнена, што хачу быць палітыкам ці палітолагам, аднак хацела б звязаць сваё жыццё з міжнароднымі стасункамі.

**Вольга:** Універсітэт не даў мне прыктычных ведаў. Агулам я хацела б далей развівацца ва ўсходазнаўстве.

**- Які статус мае валанцёрства ў Польшчы? Ці ваш занятак разумеюць, скажам, вашыя сябры і бацькі?**

**Вольга:** Шмат маіх сяброў ездзіць ці ездзіла менавіта на гэтую валанцёрскую праграму!

**- Быць валанцёрам – модна сярод польскай моладзі?**





**Ксенія:** Залежыць, у якім асяродку. Мала хто ведае пра такія мажлівасці выезду. Таксама ёсць стэрэатып, што валанцёрства – гэта заўжды дапамога хворым дзецям і старым людзям.

**-Працадаўцы звяртаюць увагу на “валанцёрскі” радок у CV?**

**Ксенія:** Калі іншыя кандыдаты на пасаду будуць мець вялікі досвед у дадзенай працы, то нашае валанцёрства наўрад ці зацікавіць. Калі гэта будуць людзі, такія ж, як мы, у якіх была аналагічная стажыроўка, але ў Польшчы, то наш досвед можа нас выгодна вылучаць сярод канкурэнтаў.

**- Як арганізацыйна выглядае валанцёрства?**

**Ксенія:** У нас была сустрэча перад выездам. Пасля ўсяго таксама будзе агульная сустрэча. Таксама мы будзем павінныя напісаць справаздачу.

**Вольга:** Акрамя таго, у нас ёсць два трэнінгі: у пачатку і сярэдзіне праекта. На пачатку кожнага тыдня мы плануем, што будзем рабіць. Мы павінны працаваць 35 гадзін штотыдзень. Сюды ўключана нашае навучанне мовам. Мы маем выходныя: можна назбіраць цэлы тыдзень вольных дзён і куды-небудзь паехаць.

**-У вас, напэўна, было ўжо некаторае меркаванне пра Беларусь. Усё ж час ад часу Беларусь з'яўляецца ў польскай медыйнай прасторы. Раскажыце пра вашыя ўражанні ад краіны.**

**Ксенія:** Навіны пра Беларусь у нас не вельмі пазітыўныя, але не пра людзей, а пра сітуацыю ўвогуле. Шмат маіх знаёмых, калі даведаліся, што еду ў Беларусь, пыталіся, ці я не баюся. Маім вялікім уражаннем было тое, наколькі моцна перапляліся нашыя гісторыі: польская, беларуская, літоўская. Я чула, што іншаземцы лічаць Беларусь чыстай краінай. То я таксама гэта пацверджу. Чыста і шырокія вуліцы – не буду арыгінальнай у сваіх першых уражаннях.

**Вольга:** Людзі вельмі адкрытыя. Яны хочуць увесь час размаўляць з намі па-польску. Мы хочам на беларускай, рускай – яны нам па-польску.

**- Ці лёгка вам было наладзіць быт? Усё ж, калі перабіраешся, на 9 месяцаў, гэта даволі стрэсава…**

**Вольга:** Ой, у мяне было столькі рэчаў! (пасміхаецца). Мы ўжо прывыклі да горада, да новай кватэры, да людзей.

**Ксенія:** Я не прывыкла да вашых грошай. Я часта памыляюся ў крамах: даю тысячу замест пяцідзесяці, – абедзве блакітныя. Насамрэч, мы часта пераязджалі ў Польшчы, так што гэта быў проста чарговы пераезд.

**- Па дому сумуеце?**

**Вольга:** Мы шмат дзе ездзім. На апошніх выхадных былі ў Мінску, напрыклад. Пасля трэнінгу ва Украіне мы тры дні правялі ў Львове.

**Ксенія:** Таксама мы супрацоўнічаем з іншымі арганізацыямі: з консульствам і бібліятэкай.

**Вольга:** Ходзім у "Кубу". Гэта адзіны бар, куды можна пайсці. Гэта адзінае, што перашкаджае ў Гародні, – няма дзе пайсці на каву.

**- Чаму варта займацца валанцёрствам? Якія якасці мае мець добры валанцёр?**

**Ксенія:** Гэта не толькі дапамога іншым. Гэта таксама патрэбна для самога сябе: здабываеш досвед, вучыш мовы.

**Вольга:** Важна выбраць тое, што цябе цікавіць. Калі ты будзеш займацца 9 месяцаў тым, што табе не падабаецца – гэта жах!

**greenbelarus.info**



# Гісторыя “не з падручнікаў”




У Берасці дзеці прадставілі тэатр ценяў. Праект “Гісторыі Беларусі. Вялікае Сяло” на працягу лета 2014 года рэалізоўваў брэсцкі тэатр “Крылы халопа”. Акторы тэатра ладзілі майстар-класы для дзяцей вёсак Вялікае Сяло і Ялова Пружанскага раёна Брэстчыны. Дзеці асвойвалі тэхніку тэатра ценяў, самі стваралі лялькі і сцэнаграфію, вучыліся прамаўляць тэатральны тэкст і ствараць музычнае і гукавае афармленне спектакля.

Як распавяла Еўрарадыё рэжысёр тэатра Аксана Гайко, сюжэт спектакля склалі маленькія чалавечыя аповеды пра Вялікую Айчынную вайну, пра якія немагчыма даведацца з падручнікаў гісторыі.

Гайко: “Дзеці самі рабілі лялькі, але самае галоўнае ў гэтым праекце, што гэта дакументальны спектакль. Матэрыялам для яго сталі рэальныя гісторыі жыхароў гэтых вёсак — Вялікае Сяло і Ялова. Дзеці самі збіралі аповеды дзядуляў і бабуляў, рэальныя гісторыі пра жыццё, вёску, каханне. І вось гэта было рэалізавана ў фармаце тэатра ценяў”.

Берасцейская прэзэнтацыя спектакля адбылася 15 траўня ў музеі “Выратаваныя мастацкія каштоўнасці”. Праект прыняў удзел у акцыі “Вечныя каштоўнасці”, якая адбылася ў межах Міжнароднай Ночы музеяў.

**budzma.by**





# 10 цікавых фактаў пра Васіля Быкава



**1.** У школу Васіль Быкаў пайшоў у 6 гадоў – хацеў вучыцца. Галоўныя захапленні ў дзяцінстве – чытанне кніг і маляванне.

**2.** У кастрычніку 1943 г., пасля заканчэння Саратаўскай артвучэльні, Быкаў трапіў на фронт. У 1944 г. адбылася гісторыя, якая лягла ў аснову аповесці «Мёртвым не баліць», і з-за якой родныя атрымалі «пахавальны ліст» – быццам лейтэнант Васіль Быкаў загінуў і пахаваны ў сяле Вялікая Севярынка Кіраваградскай вобласці Украіны.

**3.** У 1947 г., пасля дэмабілізацыі з войска, Быкаў прыехаў у Гродна, дзе спачатку працаваў мастаком, затым уладкаваўся на працу ў газету «Гродненская правда», дзе і апублікаваў першыя апавяданні.

**4.** Быкаў пісаў у адным з лістоў у другой палове 1950-х: «Чым больш я бачыў розных людзей і характараў, тым усё больш мацнела ў мяне перакананне ў вялікай вартасці душы беларуса. Можа на чыю думку здасца беларускі характар і мяккаваты, і не такі бойкі і спрытны розум, як у іншых, і не дужа энергічная натура – мне ж здаецца, што мы можам толькі захапляцца гэтай ягонай душой. Мы не можам ганарыцца (гэта не ў нашай натуры), мы сціпла нясем у сабе свае якасці – яны не блішчаць, не бразгацяць, а іншым здаецца, што іх і няма ў нас. Але гэта не так…»

**5.** Першую вядомасць Васілю Быкаву прынеслі аповесці «Жураўліны крык» (1959), «Трэцяя ракета» (1961), «Альпійская балада» (1963).

**6.** У 1965 г. напісана аповесць «Мёртвым не баліць», якая пасля публікацыі ў часопісе «Новый мир» была забаронена ў СССР амаль на дваццаць гадоў. Яшчэ падчас першапублікацыі ў творы цэнзурай было зроблена каля 200 купюр. Упершыню аповесць была выдадзена без цэнзуры ў 2014 г. біёграфам Быкава С. Шапранам.

**7.** У 2014 г. выйшла без цэнзуры і падрыхтаваная С. Шапранам аповесць «Сотнікаў»: тут былі вернуты каля 100 скарачэнняў і аўтарская назва – «Ліквідацыя»; была ўзноўлена і гістарычная справядлівасць – Сотнікаў стаў беспартыйным.

**8.** Яшчэ адна хрэстаматыйная аповесць Быкава – «Абеліск» – прысвечана настаўніку беларускай мовы і літаратуры Міколу Пашкевічу, які памёр ад анкалогіі ў 35-гадовым узросце. У адным з лістоў да Пашкевіча Быкаў пісаў: «Трэба трываць. Увогуле ўсё чалавечае жыццё – трыванне і пераадоленне, узнагароды, асалоды і шчасце рэдка перападаюць яму ў жыцці і яшчэ радзей таму, хто іх сапраўды заслугоўвае. Але што зробіш! Так ужо ўладкавана на гэтым свеце і ўладкавана не намі, а задоўга да нас».

**9.** «…нацыянальную прыналежнасць пісьменніка вызначае перш за ўсё мова ягоных твораў, затым – нацыянальнасць яго персанажаў. З першага майго апавядання я пішу па-беларуску, вялізная бальшыня маіх персанажаў – людзі Беларусі, – гаварыў В. Быкаў. – Намеру рабіцца расійскім празаікам у мяне не было ніколі, хапіла розуму зразумець, што расійская мова не для мяне, народжаны беларусам – беларусам застанецца».

**10.** Першы Музей Васіля Быкава з'явіўся ва Украіне – у школе ў сяле Вялікая Севярынка. Музеі Васіля Быкава таксама створаны ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна і ў Ждановічах, пад Мінскам; у Гродне Музей Быкава створаны і апякуецца ветэранамі Другой сусветнай вайны.

**movananova.by**

# Беларусь прынялі ў Балонскі працэс

**Беларусь далучылася да Балонскага працэсу і ўступіла ў Еўрапейскую прастору вышэйшай адукацыі (ЕПВА). Пра гэта было абвешчана 14 мая ў Ерэване на Канферэнцыі міністраў адукацыі краін ЕПВА і форуме па Балонскай палітыцы.**




Падчас дыскусіі пра ўступ Беларусі некаторыя ўдзельнікі канферэнцыі выказалі занепакоенасць. Міністры адукацыі Нарвегіі, Швецыі, Нідэрландаў і Ісландыі заявілі пра неабходнасць выканання Беларуссю ўмоў дарожнай карты па далучэнні да Балонскага працэсу.

Прадстаўнік Швецыі, у прыватнасці, падкрэсліла, што адчувае сваю адказнасць за пашырэнне студэнцкіх і акадэмічных свабодаў у Беларусі, таму, на яе думку, «вельмі важна, каб краіна адпавядала гэтай дарожнай карце».

А міністр адукацыі Ісландыі заявіў: «Дарожная карта – гэта не прапанова, а патрабаванне, якое павінна быць выканана. Важна, каб усе яе ўмовы былі выкананыя як мінімум. Мы павінны вельмі ўважліва сачыць за тым, што адбываецца ў Беларусі, ці выконваюцца там акадэмічныя свабоды, прынцыпы мабільнасці і ў цэлым правы чалавека».

Новую заяўку на далучэнне да Балонскага працэсу і далучэнне да ЕПВА Міністэрства адукацыі Беларусі накіравала ў 2014 годзе. У пачатку красавіка сёлета стала вядома, што беларускае пытанне ўключанае ў парадак дня, і кіраўнік Мінадукацыі Міхаіл Жураўкоў атрымаў запрашэнне на канферэнцыю ў Ерэван.

Першую заяўку меркавалася разгледзець яшчэ ў красавіку 2012 года на саміце міністраў адукацыі ЕПВА. Аднак пры падрыхтоўцы саміту Балонская рабочая група вырашыла зняць заяўку Беларусі з парадку дня ў сувязі з невыкананнем краінай такіх прынцыпаў Балонскага працэсу, як акадэмічная свабода, інстытуцыйная аўтаномія і студэнцкі ўдзел у кіраванні вышэйшай адукацыяй.

Кіраўніцтва Мінадукацыі Беларусі, са свайго боку, неаднаразова заяўляла, што прэтэнзіі «ляжаць не ў сферы адукацыі, а ў іншай сферы», і што Беларусь даўно гатовая да ўступлення ў Балонскі працэс. Пры гэтым міністр адукацыі не сумняваўся ў тым, што чарговая спроба далучэння будзе паспяховай. «Мне здаецца, я нават упэўнены, што ў гэтым годзе ў нас усё атрымаецца. І мы спакойна, без мітусні станем членамі Балонскага працэсу», — заявіў Міхаіл Жураўкоў незадоўга да паездкі ў сталіцу Арменіі.

Каментуючы прынятае сёння ў Ерэване рашэнне, ён назваў далучэнне Беларусі да Балонскага працэсу «важным і адказным крокам у развіцці нацыянальнай сістэмы адукацыі», які «адлюстроўвае высокі ўзровень беларускай сістэмы адукацыі і ставіць перад намі велізарныя задачы па яе развіццю і абнаўленню».

- Уключэнне нас у Еўрапейскую прастору вышэйшай адукацыі адлюстроўвае прызнанне сусветнай грамадскасцю беларускай сістэмы вышэйшай адукацыі і пацвярджае факт таго, што нацыянальная мадэль канкурэнтаздольная і зможа інтэгравацца ў сусветную адукацыйную прастору, – цытуе міністра прэс-служба Мінадукацыі Беларусі.

Жураўкоў падкрэсліў, што «стратэгія развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі заснавана на міжнароднай інтэграцыі, уцягванні ў працэс абнаўлення нацыянальнай сістэмы адукацыі максімальна шырокага кола зацікаўленых бакоў, уключаючы працадаўцаў, прадстаўнікоў студэнцкага самакіравання і міжнародных экспертаў».







# Каардынатарка руху «Let's do it!»:

## Захацелася пабыць сам-насам з прыродай, а вакол толькі кучы смецця

**Як заахвоціць 50 000 чалавек выйсці на вуліцу і за 5 гадзін прыбраць усю краіну, ведае тая, у каго гэта атрымалася. Сакрэтамі і парадамі дзеліцца адна з каардынатараў руху «Let's do it! World Cleanup» у Эстоніі Таццяна Лаўрова.**



**• За дзень зрабіць Эстонію чыстай**

Выпадковасці невыпадковыя, і аднойчы журналісты эстонскага штотыднёвіка прапанавалі зрабіць інтэрв'ю. Яна не вярнулася назад: «Мне хацелася змяніць свет да лепшага, і была процьма ідэй. А мяне атачалі выдатныя людзі, але ўпэўненыя, што змяніць нешта немагчыма і трэба жыць сваім жыццём».

Выходзячы пасля інтэрв'ю, яна падумала: «Хацелася б тут застацца!» А праз пару месяцаў сышла з рэдакцыі, і лёс прывёў яе да людзей, якія расказалі пра цуда-бізнэсоўца: той загарэўся ачысціць Эстонію ад смецця за адзін дзень.

Аўтар ідэі – Райнэр Нывьвак (Rainer Nolvak), дзякуючы якому з'явіўся самы папулярны эстонскі партал Delfi і нават першы завод па зборцы кампутараў MicroLink: «Ён – прафесійны біятланіст. Кажа, дастала: бягу, хачу быць сам-насам з прыродай, а вакол кучы смецця».

**• Як 600 валанцёраў працавалі 7 месяцаў**

Тады, у 2007 годзе, нарадзілася канцэпцыя. На думку Таццяны, галоўнае ў тым, як рыхтавалася кампанія – тое, што ўдзельнікі пыталі: «Як?» замест таго, каб шукаць вінаватых.

«Мы пачалі шукаць асабістыя кантакты – без іх складана падняць такую махіну. Як сабраць людзей у адзін дзень? Трэба валанцёры, шмат. Па дадзеных Цэнтра кіравання дзяржаўнымі лясамі, было не менш як 10 000 тон адходаў у лясах, на ўзбочынах, лугах і палях. Былі і прыватныя ўгоддзі. Нам трэба было 40 000 валанцёраў», – распавядае яна.

Пасля валанцёры ўдакладнілі інфармацыю: «Дарэчы сказаць, skype рэалізавалі ў Эстоніі. І яго галоўны архітэктар стаў нашым партнёрам, пад яго кіраўніцтвам была зробленая віртуальная мапа смецця», – кажа Таццяна. Картаграфаванне праводзілася ў тым ліку з дапамогай дадатку для мабільных з GPS.

Падрыхтоўка да акцыі доўжылася каля 7 месяцаў, пару чалавек атрымоўвалі заробак, астатнія 600 – валанцёры. Яны падзяліліся на каманды: адказныя за камунікацыю, лагістыку, каардынацыю валанцёраў, сувязі з партнёрамі, «бо без прыватных грошай тут ніяк».

«Я працавала фрылансерам-перакладчыкам, і гэтую дзейнасць згарнула – не было сіл ні на што. Месяцаў пяць муж мяне спансіраваў – карміў. Гераічны мужчына, паўгады еў макароны…» – прыгадвае Таццяна.

Паліва давалі бясплатна паліўныя кампаніі, хтосьці з мясцовых уладаў – граблі-пальчаткі, гарбату, піражкі – болей ці меней, але ніхто не застаўся збоку. Было каля 500 партнёраў.

**• Самая масавая рэкламная кампанія за 0 крон**

Рэкламная кампанія абыйшлася ў 0 крон і доўжылася месяц-паўтара. Па ацэнцы Таццяны, гэта была самая масавая кампанія ў краіне. Прыбіранне цягнулася 5 гадзін, удзел прынялі – увага! – 50 000 валанцёраў. І смецця сабралі столькі, колькі планавалі.

На ўтылізацыю дзяржава зладзіла тэндар і вылучыла 7 мільёнаў крон (447 тысяч еўра), што і пайшлі пераважна на яе. Калі прыбіранне ладзілася б выключна сіламі дзяржавы, па падліках валанцёраў, на яе пайшло б 350 мільёнаў крон (22,4 мільёны еўра) і 3 (!) гады.

**• Як зламалі стэрыятып у час, калі людзей вінавацілі ў фашызме**

Першы дзень валанцёры адпачывалі… «А пасля ўсвядомілі, што мы яго сабралі. Мы зрабілі пераварот у свядомас-

ці! Раней у грамадстве былі думкі: «Каму гэта трэба? Нам з гэтым жыць, а ўладам усё роўна».

Але пасля таго, што мы зрабілі, людзі не маглі так казаць. Мы зламалі стэрыятып, і людзі ўсвядомілі, што калі яны збіраюцца разам, яны могуць рабіць значныя змены. Мы здольныя канструктыўна стасавацца з уладай, і мы можам ісці далей – сувязі ўжо ёсць», – кажа адзін з каардынатараў руху «Let's do it!»

Гэта, на думку Таццяны, з'яднала грамадства, у якім тады моцным было супрацьстаянне поглядаў «рускіх» і «эстонцаў». Акцыя прайшла акурат праз год пасля таго, як адбыліся канфлікты і дэмантаж помніка савецкаму салдату.

**• «У Эстоніі асаблівыя людзі? Гэта не так!»**

Крок быў істотным у развіцці гарызантальнай камунікацыі ў грамадскай прасторы краіны, а аднаразовая акцыя зрабілася сусветным рухам «Зробім!», у якім зараз 122 краіны. У самой Эстоніі з'явіўся «Дзень карысных спраў».

На пытанне, у чым сакрэт поспеху акцыі, Таццяна адказала: «Мы адолелі 5%-ны бар'ер, зрабілі зрух свядомасці, і зараз гэта снежны ком».

Трэба адзначыць, што таксама бар'ер па колькасці ўдзельнікаў пераадолелі Славенія, Косава, Латвія і Літва, Балгарыя і Албанія.

«Калі ў кагосьці ўзнікнуць думкі, што ў Эстоніі нейкія асаблівыя людзі – гэта не так. Гэта магчыма паўсюль, дзе задаюць пытанне: «Як?». Мы разумелі, што робім нешта новае. Мы ссумаваліся па прыродзе і хочам, каб нашыя дзеці жылі ў чысціні. Нам няма адкуль чакаць дапамогі», – адзначае Таццяна.

**• Парады Беларусі**

- Сярод беларусаў слабы дух валанцёрства? Трэба намагацца перадаць людзям свае запал і натхненне. У тым ліку праз тэксты, маючы пэўны запас запрашэнняў і г.д., якія публікуюцца і рассылаюцца. Эстонцы пры пошуку валанцёраў шмат выкарыстоўвалі асабістых кантактаў.

- Важна, каб у медыякампаніі ўдзельнічалі «лідары меркаванняў» – спевакі, акторы ды іншыя. Прычым у Эстоніі ролікі трансляваліся нават па тэлебачанню. Гэта паўплывае на імідж кампаніі.

- Можна зменшыць выдаткі: эстонцаў пускалі бясплатна ў адміністратыўныя будынкі, гатэлі. У беларускім варыянце можна школы, дамы культуры.

- Не падзяляць людзей паводле палітычных поглядаў, памятаючы, што ва ўсіх агульная мэта – зрабіць свой дом чыстым: «Ну вось, не прыйдзе Пуцін на прыбіранне – і не прыбярэ свае тры кучы», – трапна пракаментавала Таццяна. І кампанія мусіць быць абсалютна двухмоўнай.

- Вызначыць ключавыя ролі ў камандзе і падзяліць працу, тых, каго не хапае, – знайсці.

- І галоўнае: «Мне вельмі ўтульна ў вас. І мне падаецца, вы сябе недаацэньваеце. Я бачу, што людзі ў кожнай краіне камплексуюць і параўноўваюць сябе з замежжам... Трэба не саромецца сваіх моцных бакоў і расправіць плечы».

**ampby.org**







# Вело-побратимы

**В апреле 2015 года, Брест и Батуми (Грузия) стали городами-побратимами. Учитывая, что в Батуми построена отличная велоинфраструктура, а также 20 автоматических станций проката с почти 400-ми велосипедами, оставлять без внимания этот город велосипедистам Бреста просто нельзя.**

Оценить велоинфраструктуру, завязать контакты с местными велоклубами да и просто познакомиться с городом отправились в Батуми представители информационно-просветительского учреждения «За вело-Брест!». Подробную оценку прокатных станций, велосипедов, велодорожек, интервью с представителями Батумской велоорганизации и их пожелания брестчанам читайте ниже.

В 2011 году для привлечения туристов городские власти Батуми одновременно с другими мега-проектами решили развивать велосипедную инфраструктуру. Их целью было превратить город в современный и комфортабельный курорт. Система проката, состоящая из 100 велосипедов, получила название «БатумиВело».

На начальном этапе проект финансировался из батумского бюджета, однако уже в 2013 году «БатумиВело» вышло на самоокупаемость. Сегодня в Батуми 370 прокатных велосипедов, которые можно взять или вернуть на любой из 20-ти автоматических станций.

Воспользоваться системой «БатумиВело» просто. В туристическом центре, после предъявления паспорта, покупается прокатная карточка (примерно 60 000 бел. рублей, действует в течение года, защищена пин-кодом).

Час проката велосипеда стоит ~12 000 бел.рублей, тарификация 30 минут. Пополнять карточку можно тут же в туристическом центре.

Интерфейс на английском и грузинском языке. После возврата ключа пишется остаток средств на карточке. Если вам попался неисправный велосипед, вы можете тут же сдать его и получить новый (первые 5 минут тарификация не производится).

Сам велосипед представляет собой ощутимо тяжёлую, антивандальную конструкцию с трехступенчатым переключателем скоростей.

Амортизатор отсутствует, любая неровность дороги ощущается всерьёз, слегка компенсируясь большим, мягким седлом : ) Высота седла регулируется самостоятельно. Скорость велосипеда небольшая, больше 30 км/ч нам разогнаться не удалось (комфортно ехать до 20 км/ч). Тормоза дисковые, при любом усилии колесо полностью не блокируют, тормозной путь достаточно большой.





Вывод: пользоваться прокатом просто, велосипеды достаточно удобные для неторопливого и непродолжительного перемещения. Сугубо туристический вариант: едешь и успеваешь осмотреть окрестности.

Велодорожки выделены красным цветом, расположены либо на тротуаре (плитка), либо конструктивно отделены. Часто можно встретить на велодорожке припаркованные машины и прогуливающихся пешеходов.

Вывод: велодорожек много, хорошего качества. Ширина от 1,5 до 3 метров. Пешеходы и машины прилагаются : (

Кроме хорошей инфрастуктуры, в Батуми брестских велосипедистов ждут представители местного велосообщества. 13 мая состоялась встреча представителей информационно-просветительского учреждения «За вело-Брест!» с батумскими велобратьями. На встрече была достигнута договорённость о сотрудничестве, в частности, запланирован приезд батумских велолюбителей в Брест для тестирования и описания впечатлений о велоинфраструктуре, а также о совместном приёме велогостей.

Всем велосипедистам Бреста, которые собираются в Батуми, можно писать на zavelobrest@gmail.com для получения контактов. А первые 5 туристов получат от «За вело-Брест!» бесплатные прокатные карточки для «БатумиВело».

**• Взгляд изнутри**

Интервью с Тимуром и Давидом, представителями велоорганизаций Батуми (манера и стиль высказываний сохранены).

**- Какое примерно количество велосипедистов в Батуми?**

- С каждым годом становится все больше и больше, т.к. велосипед – это очень доступный для Батуми, комфортный способ передвижения. В городе узкие улицы, поэтому на машинах, особенно в сезон, очень трудно ездить – постоянно пробки.

**- Как относятся водители автотранспорта к велосипедистам в Батуми?**

- Да вообще никак, если честно. На дороге велосипедиста оценивают как… не знаю… вообще ни во что не ставят. Для них это не то, чтобы помеха – для них это раздражитель. Они ругаются, они машут руками, для них не понятно, что велосипедист делает на дорогах. Для них велосипед – это такой транспорт, на котором можно кататься, ну по двору, например – и все. Как транспорт, на котором можно передвигаться по городу или ездить на работу, они велосипед не воспринимают.

**- А пешеходы?**

- У нас около пяти лет существуют велодорожки, инфроструктура, поэтому и для городских жителей, и для приезжих это еще в новинку. Также пешеходов притягивает цвет велодорожки – красный. Они всегда норовят по красной дорожке пройти, гуляют (наверное, чувствуют себя в Каннах). Из-за этого часто неприятные ситуации возникают. А что касается тротуаров – мы тоже стараемся, если есть возможность ехать по велодорожке, ехать по ней, для того чтобы самому перед собой не нарушать закона, чтобы быть честным именно для себя.

**- Правила дорожного движения как-то ограничивают пешеходов? Могут оштрафовать пешехода за прогулку по велодорожке?**

- Нет. Чтобы оштрафовать – этого нет. Но охрана, которая патрулирует улицы, требует от пешеходов, чтобы они перешли на тротуар.

**ОКОНЧАНИЕ на странице 20 ▶**

# Вело-побратимы

**ОКОНЧАНИЕ. Начало на странице 19**

**- А если велосипедист захочет ехать по тротуару, когда рядом есть велодорожка? Тоже нет ограничений?**

- Ограничений, как я сказал, прописанных нет. Но,по-любому, полицейские, охрана, контролируют, чтобы все ходили, ездили там, где надо.

**- А ночное передвижение как-то регламентировано? Обязательно чтобы были фонари на велосипеде?**

- В городе везде есть отдельные велодорожки, по которым можно ездить без всяких фонарей. А если ехать по дороге, тогда обязательно нужны фонари.

**- Расскажите о своей организации. Чем вы занимаетесь?**

- Мы в основном пропагандируем велотранспорт как основной вид передвижения в городе. Чтобы больше было велосипедистов, чем водителей. Это отдельная субкультура. Помимо этого пропагандируем здоровый образ жизни, тем более, что у нас с водителями очень большая беда, они не только не умеют ездить по правилам, они и парковаться не умеют: то на тротуаре оставят машину, то на велодорожке. Летом приезжают туристы, многие на больших машинах, и в городе не продохнуть от выхлопов. А пробки – это вообще кошмар.

Также мы в конце каждого месяца собираем «CriticalMass». Мы стараемся не только этим пропагандировать, не только ездить по дорогам с лозунгами, майками и кричалками, но также работать в социальных сетях и на улице. Наши друзья, когда видят, что мы собираемся, выезжаем за город, устраиваем пикник, делаем фотки обалденные – тоже впечатляются. Говорят: надоела машина, хочу размять ноги… и покупают велосипед. В общем, положительный пример очень влияет (смеётся).

**- У вас появилась несколько лет назад велоинфраструктура, были вложены большие деньги. Это както повлияло на количество велосипедистов в городе?**

- Само собой. Когда есть где ездить – встает вопрос на чем ездить? Значит идёшь, покупаешь велосипед. До этого была лишь самая простая дорога, по которой ездить не ахти как нравилось людям. А сейчас, тем более, когда осознаешь, что это твоя дорога, велосипедная, тогда с честью и гордостью на ней катаешься.

**- Ваши пожелания велосипедистам Бреста?**

- Приезжайте к нам! (улыбается). Хочу пожелать здоровья, и чтобы дух велосипедиста, который в гору идет, никогда не спадал, и чтобы с тормозов вы не слетали никогда. Действительно, приезжайте к нам, потому что вы помогаете нам созидать. Когда наши муниципальщики (городские власти) смотрят, что именно кататься на велосипеде приезжают сюда и требуют веломагазин, что-то починить, развивать велотуризм, они уделяют больше внимания и денег. Поэтому и развилась эта велоинфраструктура и развивается, она еще в зародыше, можно кучу всего сделать, ведь пока ничего нормального не сделано… (увидев приподнявшиеся брови брестчан) … ну ладно: дороги сделаны, но аппетит ведь приходит во время еды. Так что приезжайте, ждем!

**Александра ГАРДЭ**





# Наша мова – "МоваНанова"

**Многія чулі, але не шмат людзей адважваецца і знаходзіць час каб наведаць (безкаштоўныя!) курсы "МоваНанова" у нашым горадзе. Што гэта такое, з чаго ўсё пычыналася і навошта "Мове" валанцеры – на гэтыя, і не толькі, пытанні, адказала Воля Малафеечава – адзін з арганізатароў курса роднай мовы.**



**- Раскажы крыху пра ініцыятыву "МоваНанова".**

"МоваНанова" – гэта бясплатныя курсы беларускай мовы для ўсіх узростаў. Кожны занятак – гэта новая тэма, дзе можна пашырыць свае веды ў граматыцы і папоўніць свой слоўнікавы запас, а таксама магчымасць пазнаёміцца з цікавымі творчымі асобамі з нашага горада (і не толькі), якія размаўляюць па-беларуску.

**- З чаго ўсё пачыналася?**

У Берасці курсы пачаліся ў красавіку 2014 года. За год працы мы некалькі разоў мянялі месца правядзення заняткаў, але галоўнае, што не згубілі прыхільнікаў роднай мовы. У новым сезоне нават пачалі працаваць асобныя курсы для дзетак. Мне падаецца, што зараз на занятках ствараецца вельмі ўтульная і сяброўская атмасфера. Нашыя студэнты самі прапануюць ідэі для развіцця "МоваНанова". Так, напрыклад, у нас з'явіўся беларускамоўны буккросінг, прайшлі майстар-класы па саломапляценню і выцінанцы.

**- Апішы самы цікавы момант з тваёй працы на курсах.**

Цяжка вылучыць нейкі адзін яскравы момант, але большую зваротную рэакцыю звычайна выклікаюць заняткі, звязаныя з традыцыйнымі святамі, альбо прыезд знакамітых гасцей. І сапраўды прыемна, калі потым сустракаеш нашых студэнтаў на вуліцы, і яны пачынаюць размаўляць па-беларуску.

**- Навошта "Мове" валанцёры. І калі нехта адгукнецца, то чым ён (яны) будуць займацца?**

Вядома, больш увагі мы надаем арганізацыі саміх заняткаў. Клапацімся пра гасцей і тэхнічную падрыхтоўку. Між іншым, таксама важна здымаць занятк і на фота і відэа, апрацоўваць матэрыялы, потым выкладаць іх у сацсеткі, таксама ладзіць цікавыя беларускамоўныя кампаніі, пашыраць кола арганізацый, якія прапануюць зніжкі за карыстанне беларускай мовай. У гэтым мы і чакаем дапамогі ад валанцёраў.

**- Паспрабуй апісаць ідэальнага валанцёра…**

Для нас ідэальны валанцёр – гэта перш за ўсё чалавек неабыякавы да беларускай мовы і гатовы падзяліцца з намі сваімі талентамі і вольным часам :)

Для ўсіх, хто зацікавіўся гэтай ініцыятывай, просім далучацца да суполкі ў VK і наведваць самі курсы, якія праходзяць па суботах у "Прастора КХ" (Халтурына, 2).

**Інтэрв'ю правеў Дзяніс ТРАЦЮК**



• • •

Сустракаюцца два праграміста. Адзін прыехаў на новым выдатным ровары. Другі пытаецца:
- Файны ровар! Колькі аддаў?
- Задарма атрымаў!
- Як так?
- Іду ўчора ўвечары па парку, раптам пад'язджае да мяне маладая дзяўчына на гэтым ровары, здымае спадніцу, трусікі і кажа, што я магу атрымаць усё, што захачу. Я выбраў ровар!
- Малаток! Спадніца табе на фіг не патрэбная, а трусы памерам наўрад ці б падышлі!

• • •

Іван працуе грузчыкам, таму што ў дзяцінстве, замест таго каб вучыцца, ён марыў стаць касманаўтам.

• • •

На вуліцы стаіць мужык, круціць за вуха хлопца і прыгаворвае:
- Я табе пакажу як тра#аць маю дачку, я табе пакажу, блін, пакажу!
Хлопец:
- Ды не трэба, я і сам ўмею.

• • •

Бландынкі папілі гарбаты, глядзяць на чайнік.
- А што з астатнім кіпенем рабіць? Шкада выліваць.
- Дык пастаў у лядоўню, кіпень заўсёды спатрэбіцца.

• • •

Катаючыся на амерыканскіх горках з настаўніцай беларускай мовы, дзеці даведаліся шмат выключэнняў з правілаў.

• • •

Таня ўжо год не можа запісацца да цырульніка, таму што дзяўчына не павінна тэлефанаваць першай.



• • •

- А пароль які?
- Без пароля.
- Ды не пускае.
- «Без» з вялікай літары.

• • •

- Цябе як завуць?
- Як Сяргея.
- Як якога Сяргея?
- Як любога Сяргея.

• • •

Я настолькі мілы, што Бэмбі ў параўнанні са мной - проста алень.

• • •

Мой брат працуе хірургам у Маскве. Рэжа маскалёў, яшчэ і грошы атрымлівае.

• • •

Трапілі на бязлюдны востраў 100 мужчын і адна дзяўчына. Праз год дзяўчына не вытрымала і памерла. А яшчэ праз год мужчыны не вытрымалі і пахавалі дзяўчыну.

• • •

Як раззлаваць дзяўчыну:
1. Зафоткаць яе.
2. Не паказваць ёй.

• • •

- Тут купацца забаронена, - кажа міліцыянт прывабнай дзяўчыне, якая збіраецца ўвайсці ў ваду.
- Чаму ж вы не сказалі пра гэта мне, калі я распраналася?
- Распранацца тут не забаронена.

• • •

Мядзведзі, якія сустракалі людзей, лічаць, што людзі жывуць на дрэвах.

• • •

Адлічаны другакурснік Сідараў кожны дзень піша свайму дэкану, што ён вельмі ўдала трапіў у спецназ «Альфа», і яго там вучаць забіваць.

• • •

Задніца веласіпедыста Валодзі, які ўляцеў у рэкламны шчыт, 17 хвілін была тварам кампаніі AVON.

• • •

Ва ўкраінцаў ходзіць легенда, што пад адным з помнікаў Леніну знаходзіцца бязвізавы партал у Еўропу.

• • •

Учора напісала на бруднай машыне суседа: «Памый мяне». Сёння гляджу, а на маёй напісана: «Заходзь, памыю».

• • •

Роўна праз 34 гудкі ў скайпе званок скідаецца. А што вы ведаеце пра адзіноту?

• • •

Мая дзяўчына раней ўвесь час думала, што я ёй здраджваю. Пайшла да бабкі. Прываражыла мяне. І цяпер думае, што я ёй не здраджваю.

• • •

Муж тэлефануе дадому:

- Дарагая, я сёння не прыйду дадому, мы у Дзімкі ў карты граем!

Жонка, усміхнуўшыся, ціхенька кажа:

- Дзімка, ты чуў? Ён у цябе ў карты грае.

• • •

Два хірурга.

Першы:

- Уяўляеш, мне ўчора сон прысніўся, - я прафесар, раблю аперацыю на сэрцы, вакол асістэнты, усе дактары навук, а ты мне пот з ілба выціраеш!

Другі:

- А мне сон прысніўся, быццам я памёр, і вось стаю перад варотамі Рая, а святы Пётр мяне не прапускае. Разумееш, кажа, ты хірург, ты людзей рэзаў, ты ім балюча рабіў, не магу я цябе ўпусціць! А я раптам убачыў цябе, ты ў Раі, увесь у белым, побач прыгожыя жанчыны. Кажу, «А чаму Іванова ўпусцілі, ён жа таксама хірург?!» А Пётр у адказ: «Хто хірург? Іваноў-хірург? Г%УНО ён, а не хірург!»

• • •

Мужык вырашыў купіць карову.

Прыходзіць на рынак, глядзіць, прадаюцца дзве каровы.

Пытаецца ў гаспадара:

- Колькі каштуюць?

- Адна 200 рублёў, другая 100 рублёў.

Мужык:

- А што, яна хворая?

- Не.

- Можа, не доіцца?

- Не, усё нармальна, доіцца таксама як і тая.

- А ў чым розніца?

- Проста яна з Пінску.

Падумаў мужык - карова выдатная, здаровая, малако дае, ну і ўзяў.

Прывёз да сябе, усё добра, не абдурыў мужык.

Надышла пара яе таптаць. Прыводзяць быка - бык на яе, яна ў бок, бык зноў на яе, яна дрыгае нагамі, не даецца. Паклікаў суседа трымаць яе, а яна ўсё роўна тузаецца, не даецца. Стомлены сусед, выціраючы лоб:

- Слухай, яна ў цябе не з Пінска?

- А... а ты адкуль ведаеш?!

- А, ды ў мяне жонка з Пінска!

• • •

Ідуць бландынка і брунэтка па джунглях. Раптам з кустоў выскоквае тыгр. Брунэтка, нядоўга думаючы, кідае жменю пяску ў вочы тыгру і лезе на дрэва. З дрэва крычыць бландынцы:

- Лезь хутчэй!

А тая адказвае:

- За-а-а-раз! Я яму пясок у вочы не кідала!

• • •

Калісьці ў нашай газеце была рубрыка "Маладыя галасы". Мы давалі маладым паэтам магчымасць прэзентаваць сваю творчасць шырокаму колу чытачоў. Час не стаіць на месцы, і цяпер мы адкрываем рубрыку "АБ'ЕКТЫЎна", дзе кожны малады фатограф можа апублікаваць свае самыя ўдалыя фоткі. Першым фатографам у новай рубрыцы стала Улада Панфёрава. Знаёмцеся:

– Меня зовут Панфёрова Владислава. Мне 15 лет, а учусь я в гимназии №1.

Фотографировать я начала потому, что мне невероятно захотелось показать людям, насколько они прекрасны. Насколько удивителен мир, который их окружает. Моя цель – заворожить публику! Я стремлюсь к тому, чтобы люди, глядя на мои фотографии, забывали о своих проблемы, чтобы осознавали, что прекрасного, на самом деле, очень много! Когда у меня опускаются руки, когда что-то не получается, веру в себя мне возвращают мои родители и моя учительница по английскому языку. Эти люди верят в меня, и это чрезвычайно помогает прокладывать себе дорогу сквозь многочисленные трудности. И больше всего на свете я благодарна им, что они всегда со мной рядом.

Помимо фотографии я люблю рисовать, читать, переписываться бумажными письмами и плавать, но фото сопровождает меня во всех моих увлечениях.

**Фото называется "В ожидании желанного письма".** Мы с Котовой Анной постарались воссоздать образ в стиле ретро. Письма, долгожданные письма. Из многочисленных фотографий выбрали именно эту, так как она, как ни одна другая, показывает именно то состояние, которое наполняет в ожидании желанного письма.

**Больш падрабязна з творчасцю Улады можна пазнаёміцца на адмысловай старонцы Укантакце: https://vk.com/club74909675**


Дзедзіч **Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь • №3(90) • Чэрвень 2015**
dzedzich@dzedzich.org • www.dzedzich.org

**Заснавальнік: ініцыятыўная група моладзі**
**Распаўсюджваецца бясплатна**
Падпісана ў друк 15.06.2015 года у 18-00
Папераафсетная, фармат А5, 1,5 ул.-друк. аркуша,
Гарнітура Myriad
Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
**Наклад 299 асобнікаў**

**Галоўны рэдактар: Дзмітрый ШЫМАНСКІ**
Рэдкалегія: Ю.МІКАЛАЕВА, А.КАХОВІЧ, П.ДАЙЛІД, У.КРАСЬКО, А.ТРУС
Адказны за выпуск: Вольга ЯРАМЧУК
**Кантактныя тэлефоны:** (029) **660-57-41**, (029) **724-21-16**
Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі


